



# Беларус

**50-ГОДЗЬДЗЕ!**

*«Другі Ўсебеларускі Кангрэс... пастанавіў: Вызнаць правільнай і зноў пацьвердзіць гістарычную пастанову Рады Беларускай Народнай Рэспублікі... 25 сакавіка 1918 г.»*

*Менск, 27 чэрвеня 1944 г.*

**№ 410 Люты 1994**
Год выд. 43

**BIELARUS** / Belarusan Newspaper in the Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.

Address: P.O. Box 301-178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $2.50


## ТЫСЯЧЫ ДЭМАНСТРАНТАЎ ЗА СВАБОДНЫЯ ВЫБАРЫ



*Удзельнікі агульнай палітычнай забастоўкі ў Менску на плошчы Незалежнасьці 15 лютага 1994 г. Фота з газэты «Свабода», № 6, 15-21 лютага 1994 г.*

*Менская газэта «Свабода» (№ 6, 15-21 лютага 1994 г.) падала:*

Як заявіў карэспандэнту «Свабоды» дэпутат Сяргей Антончык, у Менску 15 лютага палітычны страйк распачалі, прыкладна, 20 тысячаў рабочых. Цалкам спыніўся завод аўтаматычных лініяў, забаставалі некаторыя цэхі на трактарным і аўтамабільным заводах, спыніўся завод колавых цягачоў... Меўся страйкаваць «БелВАР», дзе працуе С. Антончык. Аднак а 8-й гадзіне раніцы тут пачалі выдаваць зарплату, і рабочыя пайшлі да вакенцаў касы.

Яшчэ напярэдадні, на сустрэчы з дырэктаратам, Кебіч паабяцаў даць зь бюджэту грошы на зарплату, перакінуўшы сродкі з чацьвертага кварталу на першы. Старшыня Саўміну стрымаў слова. Грошы атрымалі нават на тых заводах, якія ўжо даўно стаяць бяз працы (там працуюць хіба што толькі касіры).

І ўсё-ж, нягледзячы на ўрадавыя абяцанкі, запалохваньні, прапаганду, страйк пачаўся. Ужо а 9-й гадзіне на пляцы Незалежнасьці ў ачапленьні міліцыі стаяла некалькі тысячаў чалавек. Блізу 11-й гадзіны падышлі калёны рабочых. Паводле нашых падлікаў, на пляцы сабралася больш за 10 тысячаў чалавек.

Дэпутат Антончык, які вёў мітынг-сустрэчу, паведаміў, што на мітынгі выйшлі рабочыя ў Маладэчне, Вілейцы, Салігорску ды іншых гарадох Беларусі.

Лідар БНФ Зянон Пазьняк заявіў, што «гэта першы дзень страйку, але не апошні».

Пасьля 12-й гадзіны ўсе ўдзельнікі мітынгу арганізаванаю калёнаю, якая расьцягнулася на 1,5 км, рушылі да будынку былога ЦК КПБ, дзе цяпер месьціцца Вярхоўны Савет.

Пасьля кароткага мітынгу да генэрала Грыба была накіраваная дэлегацыя, каб уручыць яму патрабаваньні Рэспубліканскай Рады страйкамаў аб адстаўцы кабінэту Кебіча, сфармаваньні пераходнага ўраду і неадкладным правядзеньні датэрміновых выбараў. Старшыня ВС спачатку адправіў двух сяброў Прэзыдыюму атрымаць пакет ад страйкоўцаў. Аднак тыя пажадалі мець справу непасрэдна з Грыбам і рушылі да яго ў кабінэт, дзе перапалоханы генэрал вымушаны быў выслухаць патрабаваньні страйкоўцаў і прыняць пакет. Грыб сказаў, што перадасьць патрабаваньні на разгляд Прэзыдыюму ВС — «я-ж адзін нічога вырашыць не магу».

Дэпутат Антончык перакананы, што страйкавы рух будзе нарастаць. »У бліжэйшыя дні распачнуцца забастоўкі на іншых заводах, — сказаў ён. — Генэральны выступ будзе ў аўторак, 22 лютага, калі пачнецца сэсія Вярхоўнага Савету. У гэты дзень аб 11-й гадзіне рабочыя зноў прыйдуць на пляц Незалежнасьці. І мы будзем там, пакуль яны ня выканаюць патрабаваньняў страйкаму».

**Пятро Панкратовіч**

## ТРЫМАЙЦЕ СЬЦЯГ БНР!

Вось атрымаў кнігу «Курапаты». Жудасны дакумэнт злачынстваў калябарацыйнага камуністычнага рэжыму ў Беларусі. Зусім выпадкова таго-ж дня канадзкая газэта *London Free Press* паведамляе аб зьняцьці са становішча Старшыні Вярхоўнага Савету Станіслава Шушкевіча ды абраньні на ягонае месца генэрала міліцыі Мечыслава Грыба, былога камуніста.

Мы ня ведаем, што сабой прадстаўляе сп. Грыб. Той факт, што ён былы камуніст не павінен дыскрэдытаваць яго, бо мы ведаем шмат былых камуністаў, якія аказаліся добрымі патрыётамі Рэспублікі Беларусь. Аднак што нас непакоіць, дык гэта той факт, што яго выбраў нелегальны ВС, які ў сваёй пераважаючай бальшыні складаецца з былой намэнклятуры, варожай духу беларускага народу. Гэты ВС супрацівіцца ўсімі сіламі прыватызацыі эканомікі, беларусізацыі дзяржаўных установаў, сродкаў масавай інфармацыі ды школьніцтва.

Паводле той-ж газэты, падпісаньне дагавораў аб супольнай абароне з Расеяй ды ўключэньні Беларусі ў рублёвую зону абазначае канец незалежнасьці Беларусі. Я мушу прызнаць, што тут ёсьць вялікая доза праўды. На маю думку, гэта абазначае круты паварот да старой сыстэмы як эканамічнай, гэтак і палітычнай.

Бальшыня цяперашніх палітычных дзеячоў і дзяржаўныя органы Беларусі паказалі, што яны ня вызбыліся яшчэ псыхалёгіі нявольніка. Яны нагадваюць мне калішніх сялянаў, якія пасьля скасаваньня прыгону прасіліся ў пана, каб ён прыняў іх назад на старых умовах. Выглядае, што спадары кебічы ды кампанія не пакінулі маскоўскага пана, іх цягне да яго. Спадары кебічы, не хавайце галавы ў пясок. Падзей гісторыі ня вернеце назад. Бальшыня беларуска народу ня хоча садзіць галаву назад у калябарацыйна камуністычны ці сучасны расейскі хамут. Мы шануем расейцаў, якія так як і мы хочуць пазбыцца сталінскага ярма. Мы верым, што фэнамэн Жырыноўскага хутка ацьвярозіць прагрэсыўных расейцаў, і мы зможам, як роўны з роўным, сесьці за круглым сталом, каб палепшыць долю нашых народаў.

А да беларускай дыяспары зьвяртаюся з заклікам: ня дайце выпусьціць сыр з вашага дзюба. Гляньце цьвярозым вокам на запраўднае палажэньне на Беларусі ды трымайце сьцяг БНР у моцных нацыянальна руках.

*Лёндан, Канада.*

**Б. Рагуля**



## «ДАР САКАВІКА»

Кожнага году ў месяцы сакавіку Фонд Рады БНР праводзіць сярод сваіх суродзічаў на эміграцыі збор дабраахвотных ахвяраў на «Дар Сакавіка». Нармальна, так сабраныя грашовыя ахвяры прызначаюцца на тую ці іншую мэту, а перш за ўсё, каб падтрымаць дзейнасьць тае ці іншае арганізацыі або выдавецтва, што працуюць для дабра беларускай нацыянальнай справы. Факт — мы ня можам разьлічваць на вялікія сумы грошай, бо нашая дыяспара раскінутая па ўсіх краінах вольнага сьвету і нашыя рады таксама малеюць, а патрэбы ў дапамозе ўзрастаюць.

Але, ведаючы патрыятызм і ахвярнасьць нашых людзей, Фонд Рады БНР спадзяецца і сёлета на належнае падтрыманьне «Дару Сакавіка».

Усім нам добра ведама, што цяпер адбываецца ў нашай Беларусі, але будзем мець моцную надзею, што ў гэтым 1994 годзе ў Беларусі, нарэшце, адбудуцца першыя вольныя выбары, пасьля якіх пачнецца будаваньне запраўды дэмакратычнай і незалежнай Беларусі.

Просьба перасылаць ахвяры на адрас Скарбніка Рады БНР і чэкі выпісаваць на ягонае прозьвішча:

Vitaly Kazan
183 Lawn Avenue
Stamford, CT 06902
U.S.A.

**Сакратарыят Фінансаў Рады БНР**

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ГАЛОЎНАЯ НЕБЯСЬПЕКА — РАСЕЙСКІ ІМПЭРЫЯЛІЗМ

**Выступленьне З. Пазьняка на Сэсіі ВС 25.I.1994**

На мінулым тыдні на працягу трох дзён за зачыненымі дзьвярыма адбываліся ў Вярхоўным Савеце намэнклятурныя разборкі. (Што там экономіка, дзяржава, культура.) Мы маем магчымасьць назіраць характэрную праяву агоніі сыстэмы. Сыстэмы ўлады, што даўно пераджыла сама сябе, амярцьвела, згніла і прадаўжае абсурдна існаваць, раскладаючыся на вачах. Мы бачылі чарговую спробу антыбеларускай пракамуністычнай большасьці канчаткова і абсалютна замацаваць сваю прысутнасьць і кіраўніцтва ў галоўных зьвеньнях улады на Беларусі. Не выпадкова, што ўвесь гэты «гевалт» у канчатковым выніку зноў зьвёўся да патрабаваньня зьняць з пасады Шушкевіча і нявыгадных міністраў — унутраных справаў і КДБ.

Руская мафія і рускія сьпецслужбы імкнуцца захапіць ключавыя пасады ў дзяржаве і паздымаць зь іх беларусаў гэтак-жа як яны пры дапамозе Кебіча і Данілава паздымалі беларусаў у беларускім войску і замянілі беларускае кіраўніцтва буйнейшых заводаў на рускіх функцыянераў.

Спадар Кебіч і яго акружэньне здрадзілі Беларусі. Яны імкнуцца любымі сродкамі жорстка цэнтралізаваць уладу, рыхтуюць палітычныя ўмовы для інкарпарацыі Беларусі ў склад Расеі перад афармленьнем эканамічнай авантуры аб уваходжаньні Беларусі ў грашовую сыстэму Расейскай Фэдэрацыі. Такая палітыка ёсьць антыдзяржаўная палітыка і зьяўляецца злачынствам, за якое спраўцы яго павінны панесьці пакараньне. Я ўпэўнены, што яны панясуць пакараньне.

Грамадзяне Беларусі павінны выразна ўсьведамляць, што галоўная небясьпека цяпер для нашага грамадзтва і галоўны вораг нашай дзяржавы ёсьць рускі палітычны і эканамічны імпэрыялізм і кампрадорская дзейнасьць ураду Кебіча. Гэтыя людзі перад сканаханьнем сыстэмы ня могуць абыйсьціся бяз крыві. Ужо двойчы на працягу цяперашняй сэсіі выводзілі войскі да Дому ўраду. Што гэта за дэманстрацыя? Бразганьне зброяй перад дэпутатамі сьветчыць пра бездакразнасьць тых, хто аддае загады.

Я патрабую адхіленьня ад пасады намесьніка Міністра МУС генэрала К. Платонава, які падняў войскі, згодна яго слоў, па ананімным тэлефонным паведамленьні, не паставіў пры гэтым у вядомасьць Міністра і Старшыню Савету Міністраў. Такі чалавек не павінен кіраваць узброенымі людзьмі.

Пра тое, што рускі імпэрыялізм зьяўляецца ідэялёгіяй камуністаў на Беларусі, сьветчаць адносіны пракамуністычнай газэты «Советская Белоруссия» да майго артыкула «Аб рускім імпэрыялізьме і яго небясьпецы» («Народная газета», 15 студзеня 1994) і асабліва выступленьні з трыбуны Вярхоўнага Савету людзей пазаўчарашняга дня. Цьвёрдыя камуністы гатовыя абараняць нават сайго заклятага ворага Ельцына і ўсю яго каманду, дастаткова толькі ім пачуць крытыку імпэрскай палітыкі цяперашніх расейскіх кіраўнікоў.

Пачынаецца чарговы тыдзень Сэсіі Вярхоўнага Савету. Трэба было-б заняцца эканомікай, нацыянальнай валютай, новым пераходным урадам. Але адчуваю вашае жаданьне, спадары дэпутаты, зноў зачыніцца і пачаць вялікую грызьню. Вы дагуляецеся, панове-намэнклятура.

*Менск*

**Зянон Пазьняк**

## ЗАЯВА БЗВ

Выканаўчая Рада Беларускага Згуртаваньня Вайскоўцаў (БЗВ) выказвае сваю заклапочанасьць посьпехам на выбарах у Расеі партыі фашыстоўскае арыентацыі на чале з В. Жырыноўскім. Спадзяваньні на тое, што пасьля выбараў Расея сапраўды стане гарантам міру і стабільнасьці ў нашым рэгіёне, як яна тое імкнулася дэкляраваць, зараз таюць як вясновы сьнег ад гарачых «прароцтваў» таго-ж Жырыноўскага. Чарговы «фюрэр» з марай аб ці ня сусьветным панаваньні атрымлівае падтрымку расейскага народу.

«Господин» Жырыноўскі адкрыта пагражае анэксіяй амаль усім суседнім краінам, што можа прывесьці да вайны на тэрыторыі былога СССР. А ўжо меўшыя месца пагрозы ў бок тэй-жа Польшчы — «Варшаўская губэрня Расеі» — яўна маюць тэндэнцыю да працягу. У такіх варунках, Беларусь вельмі лёгка можа быць уцягнута ў міжнародны канфлікт і, ня дай Бог, — ядзерны. Таму абсалютнай пагрозай для нас зьяўляецца расейская ядзерная зброя на нашай зямлі. Ваенных чарнобыляў наша нацыя ня вытрывае ўжо проста фізычна.

Такім чынам, выказваючы сваю заклапочанасьць, мы адначасова прапануем:

— паскорыць вывад расейскіх войскаў з тэрыторыі Беларусі;

— патрабаваць ад Расеі як мага хутчэй забраць сваю ядзерную зброю;

— спыніць раскансэрвацыю экалягічна-небясьпечнай станцыі папярэджаньня ракетнага нападу (СПРН) каля Баранавічаў, якая таксама зьяўляецца цэльлю N1 для ядзерных ракет;

— і нарэшце зьвярнуцца да міжнароднае супольнасьці, каб прызналі наш нэўтралітэт — нам для выкананьня патрэбны гарантыі, што мы ня станем заложнікамі чарговых экспэрымэнтаў вялікага ўсходняга суседа.

Менск, 17 сьнежня 1993 г.

# ПРЭЗЫДЭНЦКІЯ І ПАРЛЯМЭНЦКІЯ ВЫБАРЫ Ў 1994 ГОДЗЕ!

Паводле прэсавага камунікату Беларускага пасольства ў Вашынгтоне з датаю 22 лютага, Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь заявіў аб сваім цьвярдым намеры патрабаваць ад сэсіі ВС, што пачалася таго-ж самага дня, прыняцьця Кастытуцыі і пастановы аб агульных выбарах кіраўніка дзяржавы, г. зн. прэзыдэнта. Прэзыдэнцкія выбары павінны адбыцца ў першай палавіне сёлетняга году.

Пастанову сваю Прэзыдыюм ВС прыняў у дзень, калі ў Менску і па іншых гарадах Беларусі адбыліся паўторна шматтысячныя забастоўкі й дэманстрацыі, арганізаваныя дэмакратычнай апазыцыяй з дамаганьнем адстаўкі ўраду Прэм'ера В. Кебіча, роспуску Вярхоўнага Савету ды правядзеньня свабодных выбараў. Пра забастоўкі й дэманстрацыі ў згаданым прэсавым камунікаце нічога не сказана.

Прэзыдыюм ВС мае намер прыняць Канстытуцыю, згода зь якой галава дзяржавы будзе адначасна і кіраўніком ураду — штосьці наўзор амэрыканскае сыстэмы. Калі будзе абраны прэзыдэнт рэспублікі, сучасны ўрад падасца ў адстаўку і будзе створаны новы.

Прэзыдыюм ВС РБ, як паведамляе камунікат пасольства, мае намер таксама дамагацца пастановы ВС аб правязеньні выбараў новага парлямэнту ў другой палавіне сёлетнага году, а выбары ў мясцовыя саветы адбудуцца ў сакавіку 1995 году.

# «СВАБОДА — ВЯЛІКАЯ КАШТОЎНАСЬЦЬ...»

**Зянон Пазьняк пра спатканьне зь Білам Клінтанам**

**М. Кулага**: *15 студзеня адбыўся візыт прэзыдэнта ЗША Біла Клінтана ў Беларусь. Вы двойчы на працягу дня спатыкаліся зь ім. Аднак урадавыя газэты практычна нічога пра гэта не напісалі. Чаму так сталася?*

**З. Пазьняк:** Пытаньне амаль рытарычнае. Урадавы друк мае ўстаноўку нічога не казаць пра БНФ увогуле і пра Пазьняка ў прыватнасьці (як, дарэчы, і саўмінаўскае радыё й тэлебачаньне). Дасягнуць поўнага маўчаньня ім не ўдаецца, таму замест праўды яны «заўсёды гатовыя» напісаць якое паскудзтва.

Урад, Міністэрства замежных справаў і Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету да апошняга супраціўляліся жаданьню прэзыдэнта ЗША спаткацца з Апазыцыяй БНФ і наведаць Курапаты. Што толькі яны ні выраблялі: адмовілі ў забесьпячэньні аховы Клінтану ў Курапатах, аэрапорт ня прымаў самалёт з памятным знакам, ціснулі на пасольства, на прадстаўнікоў амэрыканскай адміністрацыі і г.д. Нехта нават пусьціў чутку, што на Біла Клінтана ў Курапатах рыхтуецца замах. Ужо перад самым прыбыцьцём Прэзыдэнта прыбеглі засяроджаныя амэрыканскія хлопцы з рыжым сабакам, і той пачаў абнюхваць камяні ля дарогі. «Што, — пытаю, — нюхае тут гэтая псіна» — «Узрыўчатку», адказваюць. Адразу відаць, што ня жылі пры камунізьме, не знаёмыя з мэтадамі «прапаганды і агітацыі».

А васпан пытае яшчэ, чаму іхны друк нічога не напісаў. Пачакайце, напіша яшчэ і пра «долларовые инъекции в сторону БНФ», і пра змову з амэрыканскім імпэрыялізмам.

**М.К.:** *Пра што была гаворка на спатканьні з Клінтанам ва ўрадавай рэзыдэнцыі?*

**З.П.:** Закраналіся пытаньні дэмакратычных і эканамічных рэформаў на Беларусі, неабходнасьць дэмакратычных выбараў, забарона агульнадзяржаўнага рэфэрэндуму аб такіх выбарах Вярхоўным Саветам, становішча сродкаў масавай інфармацыі, імпэрская ў дачыненьні да Беларусі палітыка Расеі, пытаньні аб крэдытах і амэрыканскай дапамозе кіруючаму на Беларусі рэжыму. Рэч у тым, што беларуская намэнклятура, калі трапляе на Захад, выдае сябе за дэмакратаў, а яе верны слуга С. Шушкевіч гаворыць там пра неіснуючыя рэформы, «працэсы», «стабілізацыю» і пад. Гэтак яны разам дэзынфармуюць заходні сьвет.

У мяне не выклікае сумневу, што Амэрыка не павінна даваць крэдыты ўраду, які спарадзіў нязвычайную карупцыю, імкнецца ліквідаваць незалежнасьць Беларусі, прадае нацыянальныя інтарэсы. Крэдыты гэтыя намэнклятура ўкрадзе, растранжырыць і праесьць, а аддаваць потым прыйдзецца народу. Крэдытная дапамога павінна быць пастаўлена ў залежнасьць ад дэмакратычных і эканамічных рэформаў. Тут-жа мной было сказана, што Злучаныя Штаты не павінны адмаўляцца дапамагаць нам у справе разбраеньня і кампэнсацыі за ўран з ракетаў, бо мы выконваем усе ўмовы пагадненьняў аб раззбраеньні, нягледзячы на чарнобыльскую трагедыю, дзе

## НАСТУП НА СВАБОДУ ПРЭСЫ

Літаральна праз тыдзень пасьля адстаўкі Станіслава Шушкевіча са становішча Старшыні ВС Беларусі, на сустрэчы з прадстаўнікамі мясцовых саветаў, Прэм'ер-Міністар Вячаслаў Кебіч падкрэсьліў, што «трэба рэарганізоўваць усю сыстэму прапаганды і агітацыі». «Мы будзем камандаваць сродкамі масавай інфармацыі», заявіў В. Кебіч пад апладысмэнты мясцовых «князькоў».

Дзе, у якой краіне прэм'ер-міністар можа дазволіць сабе такія словы на адрас прэсы, ды яшчэ сустрэне такую гарачую падтрымку губэрнатараў і мэраў?

Трывожна. На Беларусі зьбіраецца на дождж. Ці прагоніць хмары дыктатуры вецер пераменаў?

**Мікола Дзябёла**
**Вацлаў Багдановіч**

нам ніхто не дапамагае (хоць абавязана дапамагаць Расея). Прэзыдэнт Клінтан пагадзіўся з гэтымі развагамі. Я сказаў таксама, што дэмакратыі, дзяржаўнасьці і нацыянальна-культурнаму адраджэньню Беларусі патрэбная перш за ўсё маральная падтрымка Амэрыкі й заходніх краінаў.

**М.К.:** *Як праходзіла спатканьне ў Курапатах?*

**З.П.:** Саўмін дамогся, што прыезд у Курапаты перанесьлі на завяршэньне візыту. Але гэта, урэшце, атрымалася і нязгорш. Спатканьне з Прэзыдэнтам адбылося ля Крыжа Пакуты, пастаўленага народам у 1989 годзе і прынесенага сюды на руках ад Усходніх могілак. Я коратка расказаў Прэзыдэнту пра Курапаты, пра Крыж. Ён падышоў да Крыжа і доўга стаяў адзін, апусьціўшы галаву, быццам моячыся. Потым мы пайшлі пешшу пад гару, на якой пачынаюцца агульныя магілы расстраляных (гэта прыблізна за 300 – 350 мэтраў ад Крыжа), размаўляючы аб падзеях, якія тут адбываліся паўстагодзьдзя назад.

На гары быў ужо ўстаноўлены гранітны памятны знак з надпісам пабеларуску і па-ангельску: «Ад народа Злучаных Штатаў Амэрыкі беларускаму народу дзеля памяці». Нас спаткалі дзеці, вучні 199-й школы (ім па 9-12 гадоў) зь ліхтарыкамі ў руках. Дзяўчынка паднесла Прэзыдэнту ліхтарык, і разам яны накіраваліся да памятнага знака. У гэты час дзіцячы хор засьпяваў «Магутны Божа». Прэзыдэнт паставіў ліхтарык-сьвечку і неўзабаве вярнуўся назад. Я растлумачыў яму, што дзеці сьпяваюць беларускі духоўны гімн, напісаны паэтэсай Натальляй Арсеньневай, якая жыве ў Амэрыцы і адзначыла ўжо сваё 90-годзьдзе.

Прэзыдэнт Клінтан тады сказаў, што хоча зьвярнуцца да дзяцей з прамоваю. Ён павярнуўся да дзетак і прамаўляў прыблізна так: «Дарагія дзеці, вы жывяце ўжо ў свабоднай краіне. Памятайце, што свабода — гэта вялікая каштоўнасьць. Беражыце яе, і хай ваша жыцьцё будзе добрым дзеля вашай свабоднай краіны, якую вы павінны зрабіць квітнеючай дзяржавай» і г.д. Гэта была кароткая і харошая прамова.

Потым Прэзыдэнту ЗША былі прадстаўленыя кіраўнікі асноўных рэлігійных канфэсіяў Беларусі і актывісты «Мартыралёгу Беларусі», якія былі тут са сваёй харугвай. Калі мы пакідалі ўзгорак, я сказаў: «Шаноўны спадар Прэзыдэнт. І ўсё-ж якія-б цяжкасьці ні перажывала наша свабода, глядзіце — гэтыя дзеці ўжо далучаюцца да Бога і шануюць сваю мову». — «Так, гэта выдатна, і я гэта заўважыў», — адказаў Клінтан.

На памяць пра візыт я падараваў Прэзыдэнту Клінтану кніжку «Курапаты», якая толькі што выдадзена ў Нью-Ёрку Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва, стараньнямі шаноўнага доктара Вітаўта Кіпеля і амэрыканскіх беларусаў. У кніжцы на беларускай і ангельскай мовах зьмешчана навуковая справаздача аб археалягічных дасьледаваньнях Курапатаў у 1988 годзе, чарцяжы, фатаграфіі і два артыкулы. Гэтая кніжка мела выйсьці на Бацькаўшчыне, у выдавецтве «Беларуская Энцыкляпэдыя». Але калі ў 1992 годзе раптам памёр кіраўнік БелЭН сьветлай памяці Міхась Ткачоў і на яго месца заступіў былы член ЦК КПБ і асабліва даверанны знаўца эміграцыі, выданьне яе там стала немагчымым, і рукапіс давялося забраць. Але, як кажуць, няма таго дрэннага...

Развіталіся мы на шашы, і шматлікі, шумны прэзыдэнцкі картэж пакаціўся ў аэрапорт.

**М.К.:** *Ці былі ў Курапатах жонка Прэзыдэнта Клінтана Гілары і дачка Чэлсі?*

**З.П.:** Не, іх ня было.

**М.К.:** *Чаму?*

**З.П.:** Так прадугледжана пратаколам. Прэзыдэнт павінен быў быць адзін.

**М.К.:** *Ад каго зыходзіла ініцыятыва вашага спатканьня ў Курапатах і перамоваў паміж Апазыцыяй БНФ і Клінтанам?*

**З.П.:** З просьбай прадугледзець спатканьне з Апазыцыяй БНФ мы зьвярнуліся да амэрыканцаў загадзя, перад візытам. Наведаньне Курапатаў — гэта амэрыканская ініцыятыва і, як мне падалося, асабліва жаданьне Прэзыдэнта Клінтана.

**М.К.:** *Як паставіўся Клінтан да перашкодаў яму наведаць Курапаты і спаткацца з Апазыцыяй БНФ?*

**З.П.:** Ня ведаю. Я ня пытаў, але мяркую, што пэўныя высновы для сябе зрабіў. Зрэшты, я папрасіў у яго прабачэньня за дзеяньні ўлады і растлумачыў, што перашкоды чынілі тыя, чые папярэднікі расстрэльвалі бязьвінных людзей. Так што іхныя паводзіны можна зразумець, гэтак-жа як неахайнасьць, зьдзек і запусьценьне на сьвятым месцы. Яно для іх не сьвятое.

**М.К.:** *Якія вашыя ўражаньні ад Клінтана як чалавека і дзяржаўнага дзеяча?*

**З.П.:** Уражаньні кароткія, а таму, зразумела, павярхоўныя. На ўзроўні першаснага ўспрыняцьця ён ня выклікаў я мяне ніякіх адмоўных пачуцьцяў, хутчэй сымпатыю. Чалавек спакойны, свабодны і раскаваны. Адначасова ўважлівы і дастаткова засяроджаны. Добра ўлоўлівае сытуацыю і зьмест гаворкі. У Курапатах я ўбачыў, што ён, не падрабляючыся, перажывае. Калі я прадстаўляў яму «Мартыралёг» — людзей, што паўжыцьця правялі ў камуністычным ГУЛАГУ і засталіся жыць, Клінтан быў узрушаны і імкнуўся схаваць сваю ўзрушанасьць. І яшчэ мне здалося, што ён з павагай ставіцца да Бога.

**М.К.:** *Ці задаволены вы гэтам спатканьнем і якіх чакаеце вынікаў?*

**З.П.:** Я ня схільны нічога перабольшваць ці ацэньваць неадпаведна. Лічу, што візыт Клінтана ў Беларусь у цэлым меў станоўчае значэньне. Дрэнных вынікаў ня будзе.

**Гутарыў М. Кулага**
**(Прэс-цэнтар БНФ «Адраджэньне»)**

## КАМУ СУДЖАНЫ ЛЁС ЛІСІЦЫ, А КАМУ ВАРОНЫ?

Ініцыятыва Барыса Рагулі з намерам выклікаць адгалосак на тэму зьезду беларусаў замежжа ў Менску («Лісіца й варона» — «Беларус» № 406) праявілася, хіба, у аптымальна добрым часе, калі ўжо першыя эмоцыі саступілі месца роздуму.

На пастаўленае ім пытаньне — «Чаму БНФ і беларускія арганізацыі ў ЗША і Канадзе мелі засьцярогі да скліканьня зьезду?» — даў часткова адказ сам зьезд. Колькасьць удзельнікаў сустрэчы, шмат вышэйшая за прадбачаную, нацыянальны, патрыятычны ўздым, дасканалая рэалізацыя добра прадуманай праграмы ды яе культурны ўзровень даказалі, што засьцярогі ня мелі істотных асноваў. Споўненая ідэя зьезду, хоць і не пазбавіла ўсьведамленьня кошту яго, то аднак праблему крыніцы паходжаньня фінансаў сьпіхнула на далейшую ступень важнасьці, чаго ўсёж нельга ўтоесамліваць зь недаацэнкай ахвярнасьці спонсараў, як і высілку і без таго сьціплай дзяржаўнай касы.

Слушна аўтар артыкулу падкрэсьліў творчы ўдзел эміграцыі ў зьезьдзе, што ўзбагаціла праграму творчаю думкаю і падмацавала яе ідэі, тактоўна аднак прыдзержываючыся статусу гасцей. Варта пры тым заўважыць, што ў адрозьненьне ад заходняй эміграцыі старога пакаленьня, удзельнікі зьезду з блізкага замежжа (Польшчы і краін былога СССР) былі пераважна людзі аднosна маладыя. Большасьць зь іх — народжаныя за межамі Бацькаўшчыны і яны былі ў асноўным успрымальнікамі, а ня творцамі зьместу праграмы, што і зьяўляецца пэўнай заканамернасьцю. Пабачыць і пазнаёміцца зь імі можна было перш за ўсё ў кулюарах. Хоць ня было ўласным выбарам іх бацькоў, а тым больш ні іх самых нарадзіцца і жыць за межамі краіны, то ўсе яны, зь якімі прыйшлося гутарыць, тыя з Казахстану, з Новасібірску, ці далёкай Калымы валодаюць сакавітаю роднаю моваю, якой, на жаль, ня чуваць на вуліцах Менску. Трэба было пачуць боль расчараваньня Міколы Санаева, сына баранавіцкай беларускі, якому зь цяжкасьцю, з прычыны перабояў у авіятранспарце, удалося дабрацца на зьезд з Камчаткі, але ўжо пасьля яго заканчэньня. Камэнтар гэтаму факту тут быў-бы хіба лішні.

Мастацкая апрацоўка мерапрыемства, удалая сымболіка і атмасфэра нацыянальна-патрыятычнага ўздыму, створаная ад самага мамэнту адкрыцьця зьезду, зьяўлюцца, бязумоўна, заслугай самых арганізатараў — палітычных, грамадзкіх дзеячаў і прадстаўнікоў культуры. Ад той хвіліны шчэзьлі са сьведамасьці прысутных крытэрыі палітычнага падзелу на апазыцыю і іншых. Запанавала татальная дружная маніфэстацыя араджэньня дзяржаўнага сувэрнітэту.

Намераная аўтарам «Лісіцы й вароны» рыторыка ў пытаньні, ці стаўся цуд, што ўрад РБ дазволіў на такую дэманстрацыю волі незалежнасьці, знаходзіць адказ у фактах, што прамаўляюць самыя за сябе. Сымболіка зьезду, яго багатая аправа, свабода выказваньня паказалі ўдзельнікам, а цераз журналістаў і ўсяму сьвету, дэмакратычныя імкненьні ўраду. З другога боку, кіраўнік яго пастараўся, каб вернасьць палітыцы «большага брата» таксама засталася непахіснай.

У сталіцы дарма было шукаць плякатаў (апрача тых каля самых аб'ектаў, дзе зьезд праводзіўся), што маглі-б спапулярызаваць мерапрыемства шырэйшым колам грамадзтва ды высьніць яго значэньне. Сам прэм'ер таксама ня спляміўся адведзінамі схо-

(Працяг на 5-й ст.)

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

**навуковай канфэрэнцыі БНФ «Адраджэньне»**
**«Праблемы стабілізацыі фінансава-крэдытных сыстэмаў посткамуністычных краінаў»**

Удзельнікі канфэрэнцыі адзначаюць, што ў выніку антырынчачнай, непрафэсійнай і неарыентаванай на нацыянальныя інтарэсы дзейнасьці Ўраду, Вярхоўнага Савету і аджылых адміністрацыйных установаў улады на працягу апошніх трох гадоў разбурана фінансава-крэдытная сыстэма Беларусі, эканоміка даведзена да крызіснага стану, а жыццёвы ўзровень людзей — да мяжы поўнага зьбядненьня.

Ня маючы ніякай праграмы эканамічнага разьвіцьця, структурнай перабудовы гаспадаркі, рынкавых рэформаў, старыя карумпаваныя структуры і Ўрад імкнуцца любымі шляхамі захаваць сваю ўладу, нават за кошт народнага дабрабыту, сувэрэнітэту і дзяржаўнасьці Рэспублікі Беларусь. Дзеля гэтага арганізуецца ўваходжаньне па сутнасьці няіснуючай грашовай сыстэмы Беларусі ў грашова-крэдытную сыстэму Расейскай Фэдэрацыі.

Зыходзячы з таго, што зьліцьцё грашова-крэдытных сыстэмаў Беларусі і Расеі супярэчыць эканамічным заканамернасьцям раўнапраўных рынкавых дачыненьняў і можа быць выкарыстана для далейшага абрабоўваньня беларускага народу, удзельнікі канфэрэнцыі лічаць:

1. Палітыка Ўраду і Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь па аб'яднаньні грашова-крэдытных сыстэмаў Беларусі і Расеі зьяўляецца няпрымальнай для нашай дзяржавы. Аб'яднаньне грашовых сыстэмаў у самым бліжэйшым часе прывядзе да абвастрэньня эканамічнага крызісу, банкруцтва прадпрыемстваў і росту беспрацоўя ў Беларусі.

2. Без увядзеньня ўласнай валюты ў дзяржаве нельга забясьпечыць выхад з эканамічнага крызісу, стабілізаваць эканоміку і гарантаваць рост жыццёвага ўзроўню насельніцтва.

3. Ня прымаючы аб'яднаньня грашовых сыстэмаў Беларусі і Расеі, паколькі яно ня мае пазытыўнага эканамічнага зьместу, канфэрэнцыя выказваецца за разьвіцьцё эканамічнага супрацоўніцтва з усімі зацікаўленымі краінамі, у тым ліку і з Расеяй.

Менск, 22 студзеня 1994 г.

# ТАМ, ДЗЕ ПОМНІКІ ЛЕНІНА

Шмат хто зь дзеячоў беларускай эміграцыі дзяліўся ўжо сваімі ўражаньнямі пасьля наведаньня Бацькаўшчыны па доўгіх гадох ростані. Выпашыў і я падзяліцца сваімі ўражаньнямі, думкамі й надзеямі. Спадзяюся, што і на Радзіме чытачы «Беларуса» не пакінуць незаўважаным мой артыкул.

Пасьля доўгіх 48 гадоў змог я зноў стаць на родную зямельку і пацалаваць яе. Ня буду цяпер успамінаць, па якіх прычынах і чаму прыйшлося мне пражыць амаль усё жыцьцё на чужыне. Гэта ўжо тэма для асобнай гаворкі.

З хвілін, калі быў яшчэ ў паветры над Менскам, быў узрушны, зьдзіўлены і ўсхваляваны прыгажосьцю і непаўторнасьцю гэтага места, якога да таго часу ніколі ня бачыў. Усё там радавала мае вочы: маляўнічыя вуліцы і плошчы, паркі і скверы, калі ня ўлічваць вялікага мноства расейскамоўных аб'яваў, рэклямы і шыльдаў. Вельмі цяжка было перанесьці тое, што ў нашай сталіцы амаль нідзе нельга пачуць беларускай мовы, ні на вуліцах, ні ў крамах, ні ў другіх грамадзкіх месцах, дзе мне давялося быць. Большасьць па старой звычцы карыстаецца ці расейскай мовай, ці «трасянкай». Дарэчы, гэтае апошняе слова ў дачыненьні да мовы я там пачуў упяршыню.

Цікава, што калі я потым размаўляў зь людзьмі, то бачыў, што амаль усе зь іх могуць вельмі прыгожа гаварыць па-беларуску. І вельмі прыкра было ўбачыць, як мала месца займае матчына мова ў жыцьці і побыце большасьці сёньняшніх мянчукоў.

Вельмі дзіўна было бачыць помнікі і партрэты злачынцы-Леніна на плошчах і вуліцах беларускіх гарадоў, у грамадзкіх установах. Хацелася-б задаць такое пытаньне цяпершнім беларускім уладам (можа хто зь іх змог-бы мне адказаць): колькі яшчэ часу будуць узвышацца над нашай шматпакутнай зямлёй помнікі гэтаму кату?

Была ў мяне вандроўка разам з дачкою Даротаю ў маю родную вёску на Глыбоччыне. Ад наведаньня засталіся ня вельмі прыемныя ўспаміны. Вельмі хацелася пабываць хутчэй у тых мясьцінах, якія столькі разоў сьніліся і дагэтуль выразна ўсплываюць перад вачыма. І як цяжка было мне ўбачыць на месцы нашай хаты і падворка пустое поле. Усё было зруйнавана і згладжана калгаснымі гаспадарамі: і рэчка, і пагоркі, і лясок. Толькі адзінае месца, дзе кусты падыходзілі блізка да дарогі, напомніла мне той дарагі малюнак дзяцінства, які цяпер ужо застаецца толькі ў памяці. У нашай не малой вёсцы, дзе калісьці было 63 хаты, сёньня стаяць толькі 16. Мая родная вёска паціху вымірае. Пабываў я там на могілках, дзе пахаваны мае продкі. Паставіў помнік на магілу свайго бацькі. Цяжка было знаходзіцца там даўжэйшы час і мы вярнуліся назад у Менск.

У сталіцы я меў намер спаткацца зь Міністрам замежных спраў Беларусі П. Краўчанкам, зь якім прыватна сустракаўся ў Амэрыцы тры разы і меў ад яго запрашэньне прыехаць у Менск, каб прадоўжыць нашую размову аб рэлігійным жыцьці на Беларусі. Па тэлефоне я змог размаўляць толькі з сакратаркай міністра, якая карысталася выключна расейскай мовай. Яна паабяцала мне дапамагчы сустрэцца зь міністрам, запісала нумар тэлефону, але наша спатканьне так і не адбылося.

Пасьля сустрэчы з маімі роднымі, знаёмымі, людзьмі рознага веку, я заўважыў, што старэйшыя людзі больш, маладшыя менш, але ўсе ня выключаюць магчымасьці вяртаньня старога парадку, хоць і сёньня гэты парадак захоўваецца амаль бязь зьмен. Людзі ня вераць у свае сілы, у магчымасьць самым вырашыць лёс свае краіны. Яны амаль ня маюць надзеі на адраджэньне Бацькаўшчыны, на яе сапраўдную незалежнасьць.

Малодшае пакаленьне, з кім давялося ўбачыцца і размаўляць, усе вельмі адукаваныя. Яны больш адчуваюць неабходнасьць незалежнасьці бацькаўшчыны, добра валодаюць мовай, гатовы штосьці рабіць, але ня ведаюць з чаго пачынаць, у іх рукі апускаюцца, калі яны бачаць, як цяперашнія пракамуністычныя ўрад і парлямэнт адкрыта вядуць прапаганду і заклікаюць за аднаўленьня былога СССР. Цяпер жыцьцёвы ўзровень на Беларусі, прыкладна, у два разы нішэйшы як у Расеі, хоць пару гадоў таму становішча было адваротнае.

Набліжаецца вясна і набліжаецца яшчэ адна магчымасьць для беларусаў выказацца за незалежнасьць і адраджэньне. Спадзяючыся, што артыкул будзе прачытаны і на Беларусі, хачу зьвярнуцца да ўсіх беларусаў, з заклікам узяць актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзеньні выбараў. Аддавайце све галасы за прадстаўнікоў БНФ «Адраджэньне» і іншых дэмакратычных аб'яднаньняў, за людзей, якія на самой справе жадаюць сапраўднай незалежнасьці і росквіту нашай дзяржавы.

*Осынінг, ЗША*

**Эмігідыюш Рыжы**

***Прысылайце ў Рэдакцыю выразкі зь мясцовых газэт, каб узбагаціць зьмест «Беларуса».***

## БЕЛАРУСІКА АМЭРЫКАНСКІМ СЛАВІСТАМ

Беларуская літаратура была прадстаўленая на 25-м агульным зьезьдзе Амэрыканскай Асацыяцыі Славістычных Дасьледнікаў, які адбыўся ў Ганалюлю на Гаваях (19-22.XI.93). Прафэсар Зіна Гімпелевіч-Шварцман з канадзкага ўнівэрсытэту ў гор. Ватэрлё, правінцыя Антарыё, прачытала на зьезьдзе даклад на тэму «Галоўныя літаратурныя кірункі ў сучаснай беларускай літаратуры». Дакладчыца дала дэтальны аналіз апытаньня, праведзенага газэтай «Літаратура і Мастацтва» ў канцы 1991 і пачатку 1992 году, пра сучасны стан і пэрспэктывы разьвіцьця беларускае мастацкае літаратуры. Даклад выклікаў жвавую дыскусію аб паглядах 400-асабовага Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі. Праф. Гімпелевіч-Шварцман закончыла свой даклад нядаўным выказваньнем прафэсара Арнольда Макмілліна зь Лёнданскага Ўнівэрсытэту аб тым, што «незважаючы на мноства перашкодаў, гэткія як камэрцыялізацыя і нястача паперы, беларуская літаратура перажывае цяпер энэргічнае аднаўленьне ў новых умовах свабоднага выказваньня».

**Т.Б.**

# НОВЫ АДДЗЕЛ КАНАДЗКАГА ФОНДУ ДАПАМОГІ АХВЯРАМ ЧАРНОБЫЛЯ Ў БЕЛАРУСІ

У горадзе Ванкувэры, што над Ціхім акіянам, на пачатку лютага сёлета пачаў працаваць новы аддзел Канадзкага Фонду Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі. Стварылі яго некалькі добрых, чулых людзей, якія выпадкова даведаліся пра дзейнасьць і мэты фонду і пастанавілі да яго далучыцца. Дзеля гэтага было наладжанае спатканьне, у якім узялі ўдзел, разам зь мясцовымі арганізатарамі на чале зь інжынерам Боўі Кіфэрам (Bowie Keefer), прадстаўнікі беларускага дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля» зь Менску, спсп. Грушавы і Панкрац (якія ў тым часе знаходзіліся недалёка ў Злучаных Штатах), а таксама старшыня Канадзкага Фонду Івонка Сурвілла і кіраўнічка дзіцячай праграмы гэтага фонду Джэйн Біл (Jane Beall).

Падчас трохдзённага спатканьня ягоныя ўдзельнікі далі дзевяць інтэрв'ю для тэлебачаньня, радыё і прэсы, у якіх інфармавалі пра Беларусь і ейную чарнобыльскую бяду. Адно інтэрв'ю было ўключанае ў праграму ўсеканадзкай вяшчальнай карпарацыі. Адбылося таксама спатканьне зь лекарамі ванкувэрскага анкалягічнага шпіталя і ладзіліся дзьве інфармацыйныя зборкі, на якія прыйшло каля 80 асобаў.

На зборках добра было пазнаёміцца з суродзічамі, якія, даведаўшыся праз сродкі масавай інфармацыі пра нашае мерапрыемства, прыйшлі пачуць больш пра праграму дапамогі дзецям-ахвярам Чарнобыля. Прыемна было тут пабачыць і старых знаёмых Галю Салавей і Ірэну Малярчук. Усе паабяцалі супрацоўнічаць з ванкувэрскім аддзелам фонду.

За пару дзён 60 сем'яў зьвярнуліся ў новы аддзел, выказваючы жаданьне прыняць на адпачынак беларускіх дзетак. А чатыры дзесяткі лістоў былі атрыманыя таксама ў Атаве.

Застаецца знайсьці фінансавыя сродкі, каб аплаціць падарожжа дзецям, а паколькі Ванкувэр знаходзіцца на другім канцы Канады, кошты будуць шмат вышэйшыя. Але ванкувэрскія сябры перакананыя, што наважанай працай змогуць перамагчы ўсе цяжкасьці і здабыць патрэбныя грошы, каб прывезьці беларускіх дзетак на шасьцітыднёвы адпачынак у найпрыгажэйшую правінцыю Канады, Брытанскую Калюмбію.

Ёсьць толькі адзін непакой. Паводля апошніх вестак, улады Беларусі ўскладнілі працэдуру афармленьня дакумэнтаў на выезд дзяцей замяжу. Апрача таго, цяпер, як выглядае, дазвол на выезд мае каштаваць 60 тысячаў рублёў за дзіцё. Хацелася-б спадзявацца, што падобныя меры ня будуць адносіцца да дзяцей-ахвяраў чарнобыльскай бяды. У адваротным выпадку мала хто зможа выехаць і наагул выезд дзяцей замяжу на адпычынак станецца праблематычным.

*Атава, Канада*

**І. Сурвілла**

**«ПОЛАЦАК» № 1 (31), 1994**
**Выданьне беларускага культурна-асьветніцкага цэнтру Кліўленд, ЗША**

У нумары (64 ст.): С. Белая — «Беражыце свабоду!»; А. Белы — Прэзыдэнт ЗША ў Беларусі; From Embassy of Belarus – President Clinton's Visit to Minsk (Press Release); Сумесная заява; Belarus-USA Diplomatic Relations; Belarus-USA Economic Relations; Representations of US Companies in Belarus; Joint and Foreign-Owned Ventures with US Capital; Export to USA in 1993; Import from USA in 1993; Credits Provided by the USA to the Republic of Belarus; М. Белямук — Тапаграфія знаходак манэт і аздобаў; Сьветчанні Аркадзя Смоліча; В. Круталевіч — Янка Купала і нацыянальна-дзяржаўнае адраджэньне; Ул. Гніламёдаў — Слова, аплачанае лёсам; М. Кавыль — З агню ды ў полымя (працяг раману); В. Санько — Хрышчэньне (урывак з аповесьці); Я. Жамойцін — Зь перажытага; С. Менская — Змагар супроць Вандэі (нэкралёг па сьв. пам. Алесю Адамовічу); В. Шчэцька — Візыт архірэя; прамова К. Мерляка; Як сустракалі Новы Год; хроніка; ілюстрацыі.

Адрас: POLATSAK, 10915 Lake Rd., Cleveland, OH 44102. USA.

# УШАНАВАЦЬ ІМЯ ВЫДАТНАГА СЫНА БЕЛАРУСІ

У Рэспубліцы Беларусь ажыцьцяўляюцца намаганьні па дастойнаму ўшанаваньню імя выдатнага паэта і кампазытара, теленавітага мастака сярэдзіны XIX стагодзьдзя, ураджэнца в. Варацэвічы Іванаўскага раёну Напалеона Арды.

Дзякуючы фэнамэнальнаму таленту, невычарпальнай працавітасьці і настойлівасьці, Н. Ардзе ўдалося стварыць праз тысячы мастацкіх палотаў мастацка-гісарычны вобраз Беларусі, перадаць яго будучым пакаленьням.

Н. Арда вядомы таксама як рэвалюцыйны дзеяч, актыўны ўдзельнік нацыянальна-вызваленчага паўстаньня 1830-31 гадоў. Эміграваўшы за мяжу, ён знаёміцца і супрацоўнічае з сусьветна вядомымі музыкантамі Ф. Лістам і Ф. Шапэнам, пісьменьнікам А. Міцкевічам. У 1843 годзе Н. Арда, як прызнаны аўтарытэт у галіне музыказнаўства, становіцца дырэктарам прэстыжнага і вядомага ў Эўропе тэатру італьянскай опэры ў Парыжы.

У сёньняшні час нацыянальнага адраджэньня Бацькаўшчыны шырыцца папулярнасьць імя Н. Арды, яго няўміручых твораў, значэньне якіх у эстэтычным і інтэлектуальным выхаваньні людзей цяжка пераацаніць. Узрастае практычнае значэньне яго архітэктурных малюнкаў пры сучасным шырокім аднаўленьні і рэстаўрацыі помнікаў гісторыі і культуры Беларусі.

У Брэсцкай вобласці разгортваецца маштабная інфармацыйная і арганізацыйная работа па папулярызацыі творчасьці Н. Арды. Зацьверджана праграма асноўных мерапрыемстваў, створана рабочая група па іх выкананьню, пачаты навукова-дасьледчыя і праектныя работы па аднаўленьні дому-сядзібы Н. Арды на яго радзіме ў в. Варацэвічы і стварэньні там мэмарыяльнага музэя.

Пасольства зьвяртаецца да суайчыньнікаў у ЗША і Канадзе з просьбай дапамагчы ў зборы і накіраваньні на наш адрас гістарычных зьвестак, архіўных матэрыялаў і сямейных рэліквій, іншых дакумэнтальных сьветчаньняў аб жыцьці і дзейнасьці Н. Арды.

*Вашынгтон*

**Пасольства Рэспублікі Беларусь**

## КАМУ СУДЖАНЫ ЛЁС ЛІСІЦЫ, А КАМУ ВАРОНЫ?

*(Заканчэньне з 3-й ст.)*

ду, а дзяржаўныя сродкі інфармацыі агранічыліся да ляканічных паведамленьняў.

У пярэдадні зьездаўскіх пачынаньняў – 26 чэрвеня 1993 г. — мінула 52 гады ад масавых расстрэлаў вязьняў, беларусаў і літоўцаў, якіх гналі, самі ўцякаючы, энкавэдысты на ўсход шляхам зь Менску церазь Ігумен (цяпер Чэрвень), названым пасьля вайны «Дарогай сьмерці». Каб ушанаваць памяць нявінных ахвяраў забойства, была прарыкам матарыялы для высьвятленьня фактычнага аблічча, гістарычнага значэньня і дзейнасьці той арганізацыі. (Пра тое ня мала мог-бы сказаць і сам шаноўны аўтар «Лісіцы...», як калішні пасьпяховы архітэктар узгадаваўчага кірунку моладзі ў духу адданасьці, вернасьці Беларускаму Народу і Краіне ды яе незалежнасьці, а не падпарадкаваньня якому-б ні было, у тым ліку і нямецкаму, акупанту.)

У гэтым выпадку прэм'ер-міністар праявіў асаблівую актыўнасьць. Ён пад націскам сваіх давернікаў забараніў



*Ігумен — «Дарога сьмерці». 26 чэрвеня 1993 г.*

ведзена жалобная працэсія пад крыптанімам «Ігумен — дарога сьмерці». У працэсіі ўдзельнічалі вялікая калёна літоўцаў з прадстаўніцтвам дзяржаўных установаў і ня менш беларусаў прагрэсыўных поглядаў, у тым ліку навукоўцы і грамадзкія дзеячы. Калі хто падумае што ўрад РБ таксама выслаў свайго прадстаўніка аддаць пашану ахвярам, той памыляецца.

На гэты-ж дзень быў падрыхтованы Задзіночаньнем Беларускіх Студэнтаў сход у тэатры Я. Купалы, прысьвечаны 50-годзьдзю заснаваньня Саюзу Беларускай Моладзі. Сход меўся згуртаваць больш за тысячу асоб розных поглядаў і прафэсіяў, правесьці спрэчкі, сягнуць па дакумэнты, выслухаць былых удзельнікаў СБМ, здабыць гістоправядзеньне сходу, загадаў замкнуць тэатр, а тэлебачаньне, радыё і прэсу выкарыстаў для распаўсюджаньня хлусьні пра СБМ, вынятай быццам жыўцом з архіваў бальшавіцкай, зьняслаўленай маною і агрэсіяй, прапаганды.

Маючы на ўвазе інструмантальны і недэмакратычны характар палітыкі кіраўніцтва ўраду РБ, можна зразумець і становішча БНФ — не супраціўляцца самой ідэі зьезду, але і не ўтоесамліваццa з урадам у арганізаваньні мерапрыемства.

Вяртаючыся да Крылова, прыдзецца, пэўна, пачакаць высьненьня, каму лёс прыпіша ролю лісіцы, а каму вароны.

*Варшава*

**Янка Жамойцін**

## У ПОШУКАХ ЭМІГРАНЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

*(Працяг; пачатак у №№ 404 і 407 «Беларуса»)*

У пачатку сьнежаня, яшчэ перад непагадзьдзю тут у нас на ўсходнім пабярэжжы, наважылі мы наведаць Цэнтар Досьледаў Гісторыі Эміграцыі у Мінэапаліс-Сан Пол. Там у Мінэсоце спаткаў нас і сьнег і мароз. Гэткім чынам пакаштавалі мы сёлетняй зімы ўжо загадзе.

У Цэнтры спаткалі нас гасьцінна, прызначылі месца для працы і мы тры дні інтэнсыўна працавалі над беларускай калекцыяй. Вітаўт адшукаў яшчэ шмат матар'ялаў для гісторыі беларускай эміграцыі, а я пераглядала беларускія часапісы і кнігі. Былі мы зьдзіўленыя і заскочаныя беларускай калекцыяй — ня гэтак тым, што там ёсьць, а але тым, чаго там няма.

Вось-жа, перш-наперш, крыху аб самым Цэнтры, бібліятэцы і архівах. Immigration History Research Center заснаваўся у 1966 годзе пры Мінэсотаўскім Унівэрсытэце і зьяўляецца найбагацейшай калекцыяй для вывучэньня гісторыі эміграцыяў з Усходняй, Паўдзённай і Цэнтральнай Эўропы — 23 этнічныя групы маюць свае большыя ці меншыя калекцыі ды архіўныя зборы прыватных асобаў ці арганізацыяў. Прыяжджаюць сюды дасьледнікі з усіх куткоў Амэрыкі, а таксама і з матчыных краінаў. У часе нашага пабыту ў Цэнтры працаваў там украінскі дасьледнік з Львову.

Беларуская калекцыя кніжак вельмі мізэрная, і мы паабяцалі папоўніць яе ў хуткім часе. Дарэчы тут зазначыць, што Цэнтар цікавіцца літаратурай пэрыяду ДП і атрымаў дапамогу для каталягізацыі і перахаваньня гэтай літаратуры. Беларуская калекцыя, на жаль, ня мае ніводнай публікацыі з таго часу.

Беларуская пэрыёдыка паводле назоваў даволі рэпрэзэнтацыйная і, здавалася-б, задавальняючая. Ёсьць там і «Беларус», і «Беларская Моладзь», і «Беларус у Амэрыцы», і «Беларускі Эмігрант», «Беларускі Сьвет», «Беларуская Думка», «Беларускім Шляхам», «Голас Царквы», «Веда», «Сяўбіт», «Уздым», «Літва», «Запісы», «Зважай», «Весткі і Паведамленьні» і іншае. Аднак, калі пагглядзець а што-ж ёсьць на паліцы, дык выглядае зусім пуста — толькі па пару нумароў з успомненых назоваў.

Найболып поўны набор «Беларускае Моладзі», «Запісаў» і «Веды», але і тут ёсьць вялікія прабелы. Найгорш, на маю думку, зь «Беларусам», бо гэтаж найважнейшая публікацыя амэрыканскіх беларусаў — ёсьць няпоўныя камплеты першых гадоў, але нічога ад 1977-га году.

І, зразумела, ва ўсім гэтым наша асабістая і калектыўная віна, бо калекцыя можа папаўняцца толькі нашымі стараньнямі.

Заклікаем усіх перасылаць свае прыватныя калекцыі беларускай эміграцкай літаратуры, архіўныя матар'ялы, успаміны, фатаграфіі і іншае непасрэдна на Цэнтар: Immigration History Research Center, University of Minnesota, 826 Berry Street, St. Paul, MN 55114. Усё гэта будзе там належна перахавана і даступна для вывучэньня беларускай эміграцыі.

Далейшыя нашыя паездкі крыху перарваліся зімовым непагодзьдзем, аднак матар'ялы прыходзяць то адтуль то адсюль. У міжчасьсі прыйшлі пакеты зь Лёндану ад а. Надсона. Усё ў добрым парадку.

Ад сп. Браніслава Даніловіча атрымалі поўны набор ватэнштэцкага «Шляхам Жыцьця» у вельмі добрым стане.

Ад сп. Аляксандра Міцкевіча ўжо дзьве раты вельмі важных недастаючых нумароў розных парыёдыкаў ды колькі кніжак.

Ад спадарства Брылеўскіх — першыя нумары лёнданскай «Званіцы» і іншае.

З Ангельшчыны ад сп. М. Швэдзюка атрымалі сьпіс яго прыватнай калекцыі, а гэтаксама бібліятэчкі пры Беларускім Доме ў Брадфардзе. Ён пляную сваю бібліятэку перадаць у Беларусь, але гатовы зрабіць адбіткі ці перадаць нам недастаючыя матар'ялы.

Гэтак нітка па нітцы...

**Зора Кіпель**

## УДЗЕЛ БЕЛАРУСАЎ У БІТВЕ ПАД МОНТЭ-КАСЫНА

У травені 1994 году будзе 50-я гадавіна бітвы пад Монтэ-Касына ў Італіі. У зацятых баях зь немцамі браў удзел 2-гі Польскі Корпус пад камандаваньнем ген. Андэрса. У гэтым корпусе быў вялікі працэнт беларусаў і іхны ўдзел у бітве і перамозе быў, бясспрэчна, вялікі. Цяжка сказаць ці былы бы пад Монтэ-Касына трыюмф «польскага жолнежа» бяз удзелу беларусаў і ўкраінцаў.

Польская Армія ў Савецкім Саюзе пачала фармавацца ў 1941-42 гадох пасьля польска-савецкага дагавору ў 1941 годзе. У гэтую армію ўступалі польскія салдаты, якія ў 1939 годзе трапілі ў савецкі палон, ды людзі з Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, былыя польскія грамадзяне, якіх НКВД, адных ці зь сем'ямі, арыштавала і вывезла на катаргу на Поўнач або ў Сібір. Сярод гэтай апошняй групы было многа беларусаў і ўкраінцаў. Натуральна, сярод ваеннапалонных былі таксама беларусы.

І так, пасьля гэтак званай амністыі (бо як можа амністыя датычыцца да людзей, якіх вывезлі на катаргу бяз суда) тысячы беларусаў кідалі лягеры зьняволеньня і ехалі да польскіх прызыўных пунктаў. Ехалі яны не зь якіхнебудзь патрыятычных пачуцьцяў, каб ваяваць за Польшчу, а проста, каб ратаваць сваё і сваіх сем'яў жыцьцё.

На прызыўных пунктах тыя зь беларусаў, што былі вывезеныя ці арыштаваныя, хутка рашчараваліся, сутыкнуўшыся з адкрытай дыскрымінацыяй. Аказалася, што гэтую групу беларусаў у польскую армію палякі не бяруць, хоць да 1939 году яны былі польскімі грамадзянамі, плацілі падаткі, выконвалі ўсе свае грамадзянскія абавязкі і г.д. А цяпер, апынуўшыся ў бядзе, мачыха-Польшча да іх не прызнавалася і іх не бараніла.

Палякі пасьля і цяпер апраўдваюць сябе, што гэта савецкія органы загадалі ім ня браць гэных беларусаў у польскую армію. Калі гэта праўда, дык

*(Працяг на 6-й ст.)*

## СТВАРАЕЦЦА ЭНЦЫКЛЯПЭДЫЧНЫ ДАВЕДНІК

Менскі Музэй Мэдыцыны Беларусі зьвярнуўся да замежных суродзічаў з заклікам прысылаць пра сябе дадзеныя, якія ўвойдуць у рыхтаваны Навукова-Дасьледчым Цэнтрам імя Ф. Скарыны даведнік. У закліку сказана:

Зараз у нашай краіне, хоць і марудна і ў многім стыхійна, вядуцца дасьледаваньні аб беларускім замежжы. Паўстаюць зь нябыту, вяртаюцца з забыцьця імёны і постаці нашых суродзічаў, якія па волі лёсу апынуліся за межамі Бацькаўшчыны. Гэта часьцей за ўсё датычыцца літаратараў, грамадзкіх дзеячоў.

Наш Музэй, са свайго боку, мае намер стварыць банк дадзеных аб мэдыках беларускага замежжа — прадстаўніках практычнай і навуковай мэдыцыны. Але зрабіць гэта без Вашай дапамогі немагчыма.

Дазвольце, калі ласка, зьвярнуцца да Вас з просьбай даць завочнае інтэрв'ю і адказаць на наступныя пытанні:

– Ваша прозьвішча, імя, імя па бацьку,

– дзень, месяц, год нараджэньня,

– месца нараджэньня,

– дзе Вы атрымалі мэдычную адукацыю,

– калі Вы навуковец, якія маеце

*(Працяг на 7-й ст.)*




*Губэрнатар штату Іліной Джым Эдгар прыслаў віншаваньні др. Вітаўту Рамуку і сп-ні Веры Рамук з 20-годзьдзем Беларускага Каардынацыйнага Камітэту Чыкага. Губэрнатар пахваліў іх за перахоўваньне культурнае спадчыны. 20-годзьдзе БККЧ было адзначанае беларускай выстаўкай у Цэнтры імя Джэймса Томсана ад 10 па 14 студзеня 1994 г. На здымку: спадарства Вітаўт і Вера Рамукі.*

*Абвестка-запросіны*

**21-Я МАСТАЦКАЯ ВЫСТАЎКА Ў САЎТ-РЫВЭРЫ**

У Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт-Рывэры (26 So. Whitehead Ave.) адбудзецца 20-27 сакавіка сёлета 21-я выстаўка твораў мастакоў і ўмельцаў зь Нью-Джэрзі і іншых штатаў ЗША, Канады, а таксама Беларусі.

Усіх сардэчна запрашаем! Па інфармацыю тэлефанаваць на нумар: (908) 247-1822.

**Беларускі Мастацкі Клюб у Нью-Джэрзі**

# ІЗНОЎ З ДАПАМОГАЙ

*(Заканчэньне з № 409)*

Зь вялікай увагай нас прымалі ў бальніцы ў Маладэчне, дзе апынуліся хворыя дзеці з радыяактыўных мясьцін-плямаў, што знаходзяцца на поўдзень ад Маладэчна. Галоўны лекар-пэдыятр др. Сьвятлана Скапец і ейная заступніца др. Ліля Усюкевіч расказалі нам пра працу з хворымі дзецьмі і маладымі цяжарнымі маткамі, якія маюць праблемы данасіць дзіцё да тэрміну. Мне гэты візыт быў асабліва важным, бо гэта – мая бацькаўшчына, дзе я падрастаў і вучыўся.

У аўторак наступнага тыдня едзем у Магілеў, у абласную бальніцу, адкуль мэдыкамэнты будуць выдзяляцца ў меру патрэбаў іншым бальніцам вобласьці. Тут нас прымаў галоўны лекар Канстантын Бахановіч. Бальніца мае розныя аддзелы і месцы на 1200 пацыентаў, а на той час усіх іх было каля 1260 – некаторых хворых давялося класьці на раскладныя ложкі.

Пасьля вячэры мы разьвіталіся зь ветлівым і дзелавым доктарам Бахановічам, які прасіў нас перадаць самыя найлепшыя пажаданьні ўсім, хто прыклаўся да арганізацыі дапамогі, хто робіць добрую справу беларускаму народу. Важна тут адзначыць, што ўсё сказанае было на добрай слуцкай мове.

Паваротная дарога да Менску была ў пацёмках, час ад часу ішоў мокры сьнег. Але маленькі масквічок надзейна давёз нас да мэты. Др. Тамара Сяржан вярталася разам з намі, каб ня ехаць у грузавіку, як яна нармальна робіць, калі завозіць мэдыкамэнты (грузавіком яна езьдзіць, каб той «ня зьбіўся з дарогі», як кажуць там).

У міжчасе партыя мэдыкамэнтаў была дастаўлена ў Берасьце іншымі супрацоўнікамі Сітыгоўп.

Заставалася яшчэ паездка ў Гомель, куды былі цяжкасьці з транспартам. Толькі а гадзіне 2-й папаўдні вырушылі мы ў дарогу. Пяць гадзін язды і мы там. Нас у абласной бальніцы не маглі дачакацца. Разгружаць дапамагалі ўсе: лекары, мэдсёстры і нават некалькі пацыентаў.

Цярплівы гэты народ, беларусы. Прывыклі чакаць і мала наракаюць на нечыя недапрацоўкі або неахайнасьць.

Разгрузку й распадзел скончылі недзе каля 10-й гадзіны вечара. Др. Тамара цягніком вярнаецца ў Менск, а я са сваім спадарожнікам маем наведаць Мазыр. Прыватны візыт.

Вось гэтак законьлася мая паездка. Я вельмі задаволены з супрацоўніцтва др. Тамары Сяржан. Яна працуе так, як могуць працаваць толькі для сябе. Трэба даць прызнаньне таксама сп-ні Ліндзе Браатэн, якая брала ўдзел у першым тыдні распадзелу мэдыкамэнтаў і харчовых прадуктаў. Гэта выдатна кваліфікаваны адміністратар і чалавек з добрай душою. Усе супрацоўнікі менскага аддзелу Сітыгоўп належна падрыхтаваныя і прафэсійна адносяцца да справы.

Беларускае грамадзтва, БАПЦ павінны быць удзячныя пастару Полу Мору за ягоную дапамогу ў зборы патрэбных лекаў і харчовых прадуктаў ды за арганізацыю іхнага распадзелу ў Беларусі.

Усім тым, хто аказаў нейкую дапамогу ў выкананьні майго заданьня – шчыры дзякуй. Прашу прабачэньня, калі некага ня ўспомніў, пераблытаў прозьвішча або становішча ці занятак.

Нягледзячы на цяжкасьці з транспартам і фізычнае змучаньне, я вынес добрыя ўражаньні са свайго падарожжа ў Беларусь і спадзяюся, што маленькая дапамога, якую мы супольна пастараліся прынесьці, аблегчыць цярпеньні тых, каму яна была найбольш патрэбная.

**Мікола Ганько,**
**сябра Рады Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы**

# УДЗЕЛ БЕЛАРУСАЎ У БІТВЕ ПАД МОНТЭ-КАСЫНА

*(Заканчэньне зь 5-й ст.)*

чаму палякі не апублікуюць адпаведны дакумэнт у гэтай справе? Беларусы, аднак, падазравалі, што іх не хацелі браць у польскую армію зь іншых прычын. Трудна тут было спадзявацца дабрасардэчнасьці з боку палякоў. Гэта-ж яны праводзілі каляніяльную палітыку ў Заходняй Беларусі. Гэта-ж яны пасялілі сваіх «асаднікаў» на нашых землях. Гэта-ж іхны міністар адукацыі, сп. Скульскі, агідна сказаў: «Запэўніваю вас, што церз дзесяць гадоў у Польшчы нават са сьвечкай ня знойдзеце ніводнага беларуса».

Перад гэтымі беларусамі на прызыўных пунктах паўстаў вельмі цяжкі выбар: альбо задэкляраваць сваю нацыянальнасьць і рэлігію, быць няпрынятым у польскую армію і застацца у цяжкіх абставінах у Савецкім Саюзе, або падавацца за палякоў і каталікаў, а часта яшчэ і мяняць імёны, ды такім спосабам ратаваць сябе і сваю сям'ю выездам у Іран. Многія зь беларусаў зрабілі гэты другі выбар.

Пасьля, ужо ў Іраку і Палестыне, былі вайсковыя загады, каб людзі, якія зарэгістраваліся няправільна, паправілі сваю асабістую дакумэнтацыю. Але ня ўсе беларусы з гэтага скарысталі, бо атмасфэра ў польскім войску ня была, далікатна кажучы, дабрасардэчнай для беларусаў. Адчувалася варожасьць, нецалерантнасьць і дыскрымінацыя. І так, многа беларусаў засталіся «папяровымі» палякамі і каталікамі. Дзеля гэтага немагчыма цяпер са стопрацэнтовай пэўнасьцю сказаць, колькі было беларусаў у 2-ім Польскім Корпусе.

Аўтар гэтага артыкулу быў сьветкам гэтых падзеяў, аб якіх піша. Нашу сям'ю няведама за што ў 1940 годзе вывезьлі («спецыяльно переселены») ў Архангельскую вобласьць. На пачатку 1942 году мы пакінулі Поўнач і цераз Расею, Казахстан, Узбэкістан, Туркестан і Каспійскае мора даехалі да Ірану. У Іране бацьку і брата забралі ў польскую армію. А я ў 1942 годзе пераехаў у Палестыну, дзе ўступіў у польскую сярэднюю школу (гімназія, ліцэй). У 1947 годзе прыехаў у Англію.

У Англіі ў польскай прэсе шмат пісалася аб розных сьвяткаваньнях у Італіі з нагоды 50-годзьдзя бітвы пад Монтэ-Касына. Будуць запрошаны высокія прадстаўнікі з розных дзяржаваў, прэзыдэнты, вайсковыя дэлегацыі, вэтэраны, сьвятарства і г.д.

Аўтар гэтага артыкулу напісаў ліст да польскіх вэтэранаў у Лёндане і запытаў, ці будуць запрошаны дэлегацыі войска зь Беларусі, Украіны і Ізраіля ды ці будуць запрошаны праваслаўныя сьвятары. Мой ліст быў пасланы ў Варшаву, адкуль я і дастаў адказ пад датай 24.XI.1993. Вось што там, між іншага, пішацца: «Не прадбачваюцца запросіны на сьвяткаваньне вайсковых дэлегацый зь Беларусі, Украіны і Ізраіля дзеля таго, што ў Бітве ня бралі ўдзел вайсковыя часьці гэтых дзяржаваў».

Тут усё ясна. Вось якая падзяка за наш удзел у бітве і перамозе, за нашу ахвярнасьць, за нашу ляяльнасьць.

Калі хто хоча больш глыбока азнаёміцца з удзелам беларусаў на заходніх франтох падчас вайны 1939-1945 гадоў, прашу чытаць артыкулы др. В. Сянькевіча пад заг. «Пра ўдзел беларусаў на заходніх франтох 2-й сусьветнай вайны» ў часапісе «Зважай» (Таронта, Канада) №№ 8 і 9 за 1977-78 гг.

*Англія*

**М. Швэдзюк**

**BELARUSIAN REVIEW, Vol. 5, No. 4, Winter 1993/94**

У нумары (26 ст.): ілюстраваныя матар'ялы пра візыт Прэзыдэнта ЗША Б. Клінтана і сп-ні Гіляры Клінтан у Менску; ліст Старшыні БНФ З. Пазьняка да Прэзыдэнта Клінтана; тэкст прамовы Клінтана ў АН Беларусі; перадрук артыкулу з часапісу Uncaptive Minds пра абмежаваньне свабоды друку ў Беларусі; апісаньне сустрэчы Старшыні БНФ З. Пазьняка з Прэзыдэнтам Клінтанам; перадрук артыкулу з газэты Los Angeles Times; паведамленьне пра новага Старшыню ВС РБ М. Грыба; інфармацыя пра Эўрапейскі Гуманітарны Ўнівэрсытэт у Менску; аналіз бягучых падзеяў А. Турэвіча; матар'ялы пра эканоміку, чарнобыльскую бяду, беларускую эміграцыю; выпісы з друку, лісты ў рэдакцыю.

Адрас: BELARUSIAN REVIEW, P.O. Box 10353, Torrance, CA 90505. USA.

**«БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ», № 2, сьнежань 1993, № 1 (3), студзень 1994 Часапіс беларускага замежжа ў Амэрыцы**

У двух нумарох дайджэсту (па 8 ст. кожны) зьмешчаны перадрукі (факсімільным спосабам) з газэтаў «Звязда», «Літаратура і Мастацтва», «Народная газета», «Чырвоная змена», «Культура», «Голас Радзімы», «Добры вечар», «Пагоня», з часапісаў «Беларускі гістарычны часопіс», «Навіны Беларускай Акадэміі», а таксама беларуска-польскіх і польскіх пэрыёдыкаў "Czasopis", "Kultura" і інш. Тэматычна пераважаюць матар'ялы прысьвечаныя беларускай мове, культуры і беларуска-польскім дачыненьням.

Адрас: BELARUSIAN DIGEST, 1085 Forest Hills, SE, Grand Rapids, MI. USA.

**НА АЛІМПІЯДЗЕ**

Сярод 22 краінаў, узнагароджаных мэдалямі на Алімпіядзе ў Нарвэгіі, знаходзіцца і Беларусь з двума сярэбранымі мэдалямі, здабытымі Ігарам Жалязоўскім і Сьвятланай Парамыгінай.

# БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКІЯ ДЫЧЫНЕНЬНІ Ў ВЯЛЕЙШЧЫНЕ (1941-1944 гг.)

*(Заканчэньне; пачатак і працяг у №№407, 408 і 409)*

Ужо падчас пісаньня гэтых успамінаў я даведаўся ад аднаго зь вельмі блізкіх маіх былых супрацоўнікаў у часе нямецкае акупацыі, чаму акруговы камісар Шмідт вельмі прыхільна адносіўся да беларусаў і чаму я меў такія шырокія паўнамоцтвы. Сталася гэта таму, што заразжа пасьля Шмідтавага прыезду ў Вялейку ў акруговым камісарыяце працавала кароткі час, мо некалькі тыдняў ці месяцаў, радавітая немка, былая настаўніца нямецкай мовы ў вялейскай гімназіі, Іда Курыль, муж якой быў сьведамы беларус. Іда Курыль вельмі палюбіла беларусаў, знала нашу гісторыю, бачыла біду, гора ды нацыянальны прыгнёт беларусаў, знала пакуты й перасьлед беларусаў польскімі уладамі. Аб усім яна, перад тым як пакінуць працу, шырока паінфармавала Шмідта.

Ня ўсьпеў я добра разгледзецца ў Вялейцы, як быў пакліка्ны да шэфа жандармэрыі Новака. Справа ў тым, што пасьля майго візыту з Ашмяны тамашнія палякі-фольксдойчы прыслалі Новаку данос на мяне, што, быццам-бы, я — камуніст і распусьціў усіх вязьняў-камуністаў з ашмянскае турмы. Мне давялося з тыдзень добра папрацаваць, каб даць патрэбныя выясьненьні, ды яшчэ ў нямецкай мове. Новак быў з выясьненьняў задаволены, але хутка ізноў насталі клопаты.

У Вялейцы было малое гэбрэйскае гета, у якім знаходзіліся рамесьнікі. Уладу над імі мела жандармэрыя. Некалькі рамесьнікаў нечым «правініліся», і мой шэф жандармэрыі, якому гэтае гета падлягала, пастанавіў іх расстраляць. Ён загадаў Пасіцелю даць двух паліцыянтаў. У паліцыі ў Вялейцы былі і палякі і беларусы. Пасіцель паслаў двух беларусаў. Прыйшоўшы на месца і даведаўшыся пра заданьне, яны адмовіліся яго выконваць. За гэта іх адразу-ж арыштавалі і прывезьлі да Новака, а той паклікаў мяне.

Абодва паліцыянты нямецкай мовы не разумелі, мне давялося быць таксама перакладчыкам. Паліцыянтам пагражаў расстрэл, трэба было іх неяк ратаваць. Я тлумачу Новаку, што паліцыя зьяўляецца паліцыяй парадку (Орднунгсполіцай), яна — не выканаўца прысудаў жандармэрыі. Калі быў прысуд сьмерці гэбрэям, дык справядлівы ён ці не, але выконваць яго мы ня будзем.

Пасьля доўгай дыскусіі я зайграў, казаў той, на ўсю. Выняў з кішэні рэвольвар і палажыў яго перад Новакам, кажучы яму: калі паліцыянты будуць расстраляныя, дык і я стану побач іх і прашу расстраляць мяне. Новак раздумаўся. Расстрэл паліцыянтаў замяніў паўгадавой «ссылкай» у менскую паліцыю.

Я зьвязаўся там з Саковічам, які, здаецца, у тым часе поўніў абавязкі начальніка паліцыі сталічнага Менску, ды прасіў яго заапекавацца «ссыльнымі», дыўшы ім лёгкую працу. Калі пасьля паўгода часу яны вярнуліся ў Вялейку, я параіў ім выйсьці з паліцыі, што яны й зрабілі. Абодвы былі мне вельмі ўдзячныя і мы засталіся вялікімі прыяцелямі.

Другая польская правакацыя была ў Смаргонях, у выніку якой я амаль не налажыў галавой. У канцы лістапада 1941 году я паехаў на інспэкцыю ўправы Смаргонскага павету. Смаргоні былі польскімі, толькі крыху ў большай ступені, як Ашмяна. Начальнікам паліцыі быў польскі афіцэр з цэнтральнай Польшчы, начальнікам павету — паляк-шавініст Пэркоўскі, ягоным перакладчыкам — паляк-фольксдойч Коло. У ўправе павету, як і ў паліцыі — амаль выключна палякі. Асабліва на паліцыю было шмат скаргаў.

Пасьля даўжэйшай гутаркі з начальнікам павету і начальнікам паліцыі я ўжо зьбіраўся ад'яжджаць, калі раптоўна ўварваўся нямецкі афіцэр з трыма жандармамі і, адабраўшы ад мяне мой рэвольвар, пачалі мяне біць. Афіцэр, як пазьней выясьнілася, быў адразу-ж на пачатку акупацыі камандантам мясцовай ортскамэндатуры. Яны ехалі ў нейкіх справах з Воршы ў Вільню і падарозе затрымаліся ў Смаргонях. Коло паказаў на мяне пальцам і сказаў па-нямецку: гэта ён.

Зьбітага, мяне пакінулі ў пакоі і толькі пасьля пэўнага часу я пачаў стукацца. Увайшоў начальнік паліцыі. Я папрасіў яго дазволіць мне затэлефанаваць да Новака, на што ён пасьля даўгога хістаньня згадзіўся. Я расказаў Новаку, што сталася і прасіў інтэрвэнцыі. Той загадаў паклікаць да тэлефону начальніка паліцыі і сказаў яму даць мне фурманку ды зараз-жа выслаць мяне ў Вялейку.

Фурманка была дастаўлена, але, выехаўшы са Смаргоняў, я заўважыў, што возчык вязе мяне іншай дарогай. Калі я запытаўся чаму, той адказаў: маўчы, панок, гэтак трэба. Толькі пазьней я даведаўся, што начальнік паліцыі хацеў наўздагон выслаць нямецкіх жаўнераў, якія-б мяне ў дарозе застрэлілі. Возчык падслухаў размову начальніка паліцыі зь перакладчыкам Коло. Пэркоўскі, Коло і яшчэ некалькі палякоў былі праз два-тры дні арыштаваныя і ўкінутыя ў Вялейскую турму. Падчас сьледзтва ўсю віну ўзяў на сябе Коло. Ён ведаў, што як фольксдойчу яму вельмі мала або нічога не пагражае. Месяц пазьней усе арыштованыя былі звольненыя.

Зусім зразумела, што і ўправа павету і кіраўніцтва паліцыі перайшлі заразжа ў рукі беларусаў. Хутка аднак Смаргонскі, Ашмянскі, Астравецкі і Сьвірскі паветы адыйшлі ў Галоўны Камісарыят Летувы.

Асаблівую ўвагу я зьвярнуў на Ільлянскі раён, дзе старшынём быў паляк Яворскі. У польскіх руках была й паліцыя. Мяне зьдзівіла, што нягледзячы на значную колькасьць, як я пасьля даведаўся, беларускай інтэлігенцыі, нічога там супраць польскага насільля не рабілася. Мая першая інспэкцыя Ільлі выявіла ўсё. Частка беларускай інтэлігенцыі (інж. Сухая, мгр. Склубоўскі, Радзюк Альбэрт) пасьля бальшавіцкага «вызваленьня» ў верасьні 1939 г. працавалі ў савецкіх установах і цяпер мусілі сядзець ціха. Радзюка польская паліцыя была арыштавала ды паслала ў вялейскую турму, зь якой, на просьбу ільлянскага беларускага актыву, дзякуючы Новаку, я яго выцягуў. Па Ільлянскім раёне разгульваў узброены Зыдлер, рабуючы ды глумячыся над беларускім насельніцтвам.

Падчас маёй інспэкцыі я меў нагоду спаткацца зь беларускім актывам ды ўсталіць кандыдатаў на чаловыя становішчы ў раёне. Хутка пасьля наступілі зьмены. За начальніка раёну быў назначаны Воўк-Левановіч, за начальніка паліцыі — Мікола Скабей. Яны заразжа правялі беларусізацыю адміністрацыі й паліцыі.

Зь Ільлянскім раёнам я больш ня меў ніякіх клопатаў. Інтэлігенцыі беларускай там хапала, пэрсанальных сварак ня было, палякі супакоіліся, асабліва калі падчас маёй інспэкцыі я асабіста арыштаваў у Паняцічах Зыдлера і прывёз яго ў Вялейку, дзе ім «заапекаваліся». Месяцаў два пазьней, калі яшчэ ўсё вялося сьледзтва, прыехала ў Вялейку гестапа, якое пераняло турму з усімі арыштаванымі. Гестапа складалася пераважна з латышоў, латышскіх немцаў, латышскіх расейцаў, было таксама двух латышскіх беларусаў.

Зыдлер асьветчыў на сьледзтве, што ён нямецкага паходжаньня, што раней знават пісаўся Зыдлер фон Розэнфэльдт, што гатоў памагчы гестапа зьліквідаваць у Ільлянскім раёне польскае падпольле. Шэф гестапа, Гравэ, згадзіўся на гэта. Нямецкая жандармэрыя аднэй начы высадзіла Зыдлера недалёка ад Ільлі. Ён пайшоў да свайго працадаўцы (працаваў у яго калісь як каморнік) ды расказаў яму, што яго дурная жандармэрыя звольніла з турмы, што ён да нічога ня прызнаўся ды заахвочваў арганізаваць супраціў.

Працадаўца, уласьнік маёнтку, згадзіўся, згадзіліся іншыя ашуканыя Зыдлерам, у тым ліку і каталіцкія ксяндзы-палякі. Пасьля нейкага часу «арганізатар» змыўся. Хутка аднак сьлядамі Зыдлера ды разам зь ім, ужо ў мундзіры эсэсаўца, гестапа аб'ехала ўсіх сяброў арганізацыі супраціву. Некаторых вешалі на месцы (у тым ліку ўласьніка маёнтку), некаторых расстрэльвалі, некаторых (некалькі ксяндзоў) прывезьлі ў Вялейку і там зьлівідавалі. Зыдлер далей працаваў у гестапа, быў вельмі добрым прыяцелем кіраўніка беларускага аддзелу В. Перамыкіна. Апошні, як і ягоныя два агенты-беларусы, іначай Зыдлера не называлі, як «пан барон».

На пачатку 1944 году Зыдлер ізноў зрабіўся польскім патрыётам, і гестапа адкамандыравала яго арганізаваць... польскі легіён на змаганьне з савецкай партызанкай. Але палякі ня хутка забыліся ўсе злачынствы Зыдлера. Яму, зь вялікімі цяжкасьцямі, удалося гвалтам сьцягнуць у «легіён» беларусаў гэтак званай польскай веры (каталікоў). Зь «легіёну» выйшаў зьвяз у ліку 120 чалавек. Мундзіры, зброю дало вялейскае гестапа, адтуль бралі і харчаваньне. Фактычна, амаль ніякага змаганьня з савецкімі партызанамі ня было, быў толькі грабеж беларускіх вёсак Вялейшчыны.

Падчас эвакуацыі Зыдлер зь некалькімі калегамі каля Аўгустова падаўся ў лес. Магчыма, цяпер пад іншым прозьвішчам жыве ў польскай «народна-дэмакратычнай» дзяржаве. Польскай мовай валодаў беззаганна, камуністычных лёзунгаў і жаргону мог навучыцца хутка.

*Сыднэй, Аўстралія.*

**Аляксандар Калодка**

*З рукапісу перапісаў Мікола Скабей 27.4.1991 г.*

---

**«ЗВАЖАЙ» № 1 (73), студзень 1994**
**Часапіс Беларускіх Вэтэранаў**

У нумары (8 ст.): З. Пазьняк («Народная газэта», 9.ХІ.93) — Настае час дзеяньняў і расплаты; К. Акула — Спачуваю Міколу Ганько...; нэкралёгі; Зварот да берасьцейцаў у сьвеце; А. Мальдзіс — Пачатак музэю «Беларусы ў сьвеце» пакладзены; К. Акула — у Фінчлейскай Беларусі; 45 год Згуртаваньня Беларусаў Канады; ілюстрацыі.

Адрас: ZVAZAJ, 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont. M4K 1C2. Canada.

---

## КАРЫСНЫ ДАВЕДНІК ПРА НАВУКОВЫЯ ЎСТАНОВЫ

Institute of Scientific Information in the Social Sciences (INION) *et al.*, **A SCHOLARS' GUIDE TO HUMANITIES AND SOCIAL SCIENCES IN THE SOVIET SUCCESSOR STATES. The Academies of Sciences of Russia, Armenia, Azerbaidzhan, Belarus, Estonia, Georgia, Kazakhstan, Kirghizstan, Latvia, Lithuania, Moldova, Tadzhikistan, Turkmenistan, Ukraine, and Uzbekistan.** M. E. Sharpe, Armonk, New York, 1993

Цяпер, калі пашыраюцца кантакты й супрацоўніцтва паміж урадавымі і няўрадавымі ўстановамі заходніх дзяржаваў і навукоўцамі рэспублік былога Савецкага Саюзу, вельмі патрэбна мець заходнім ініцыятарам супрацоўніцтва дакладную і шырокую інфармацыю пра навуковыя ўстановы постсавецкіх рэспублік. Гэткую інфармацыю і дае толькі што апублікаваны даведнік пра акадэміі навук 15 рэспублік былога СССР.

На старонках 123-129 кнігі знаходзім дадзеныя пра навуковыя ўстановы Акадэміі Навук Беларусі: Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклёру; Інстытут эканомікі; Інстытут гісторыі; Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа; Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы; Інстытут філязофіі і права; Інстытут сацыялёгіі.

Пра кожную з гэтых установаў сказана, калі яна была заснаваная; якая у яе структура, колькасьць супрацоўнікаў; галоўныя кірункі распрацоўваных праблемаў; зь якімі замежнымі ўстановамі вядзецца супрацоўніцтва; якой вялічыні бібліятэчны фонд, якія архівы. Пададзеныя таксама прозьвішчы дырэктароў, адрасы, нумары тэлефонаў. У канцы кнігі зьмешчаныя тэматычны, геаграфічны і імянны паказьнікі.

Выдавецтва «Шарп» апублікавала вельмі карысны даведнік, які ладна паспрыяе росту далейшых навуковых сувязяў пералічаных установаў зь іхнымі заходнімі адпаведнікамі.

---

## *СТВАРАЕЦЦА ЭНЦЫКЛЯПЭЧНЫ ДАВЕДНІК*

*(Заканчэньне зь 5-й ст.)*

навуковыя працы, у якім напрамку праводзілі дасьледаваньні?

– чым займаецеся і над чым працуеце зараз?

Было-б цікава атрымаць адказ і на далікатныя пытаньні:

– як Вы апынуліся ў эміграцыі, ці валодаеце беларускай мовай, ці карыстаецеся ёй, ці ёсьць зацікаўленасьць аднавіць кантакты са сваімі калегамі на Бацькаўшчыне, якія формы і разьдзелы Музэя Вас цікавяць?

Усе зьвесткі, якія мы атрымаем, будуць выкарыстаны пры выданьні энцыклапэдычнага даведніка «Беларусы ў сьвеце», які рыхтуецца Навукова-Дасьледчым Цэнтрам імя Ф. Скарыны.

З найлепшымі пажаданьнямі
Шчыра Ваша

**Тацьцяна Сьвятловіч,**
**дырэктар Музэя.**

# ЯНКА РОЛСАН (ГАДЗІЦКІ)

**Успаміны**

Дзіцячыя гады сьв. пам. Янкі Ролсана былі ахопленыя завірухай Першай сусьветнай вайны і рэвалюцыі, не давялося жыць нармальна і наведваць школу. Але ў 1924 годзе бацька перабраўся на сваю ўласную зямлю, на хутар Урочышча Ўгодзін. Тут Янка атрымаў пачатковую асьвету, скончыў у Пухавічах сямігодку і друкарскую сярэднюю школу. Вучыўся далей у Менску ў сельскагаспадарчым інстытуце, але голад і холад прымусілі кінуць інстытут, і Янка пайшоў працаваць сакратаром у пракуратуры. Але й тут не ўладкаваўся, бо была малая аплата.

У 1932 годзе пакінуў працу сакратара і падаўся набыць спэцыяльнасьць тэхніка халоднай апрацоўкі мэталяў. Па заканчэньні тэхнікуму яго накіравалі ў Ніжні Магіл на ваенны завод № 63. Тут, аднак, доўга не затрымаўся, бо ягонага бацьку НКВД арыштавала як «ворага народу» — катэгорыя, у якую трапіў і сын.

Звольніўшыся з працы, Янка пайшоў дабраахвотнікам у армію, якая паслала яго ў горад Ржэў у школу авіямэханікаў. Як курсант ваеннай авіяшколы, пастанавіў адкрыць свой сакрэт — пайшоў да начальніка школы ды расказаў яму аб сваім лёсе. Начальнік сказаў, што нічым памагчы ня можа, параіў далей вучыцца, а там, сказаў, будучыня пакажа. Янка аднак не супакоіўся, пайшоў да камісара школы. Адказ быў такі самы. Дзень і ноч чакаў «чорнага ворана». Напісаў заявы-просьбы да Сталіна, Молатава, Варашылава і камандуючага ваеннае акругі. Пісаў у газэту «Красноармейская правда». Ні адкуль адказу не атрымаў за выняткам «Красноармейской правды», якая паведаміла яму, што бацька, як вораг народу, арыштаваны й высланы на ссылку бяз права перапіскі.

Па пэўным часе Янку выклікала мясцовае НКВД 105-й авіябрыгады. На стол была пакладзеная ягонае асабістая справа, у тым ліку ўсе ягоныя заявы, якія ён пісаў Сталіну ды ўсім іншым урадаўцам. Упаўнаважаны НКВД сказаў яму: мы вывучылі ўсе Вашы справы, дзе Вы былі, што рабілі, і не знайшлі нічога варожага за Вамі. Што да бацькі, дык ня можам нічога дапамагчы, бо ў нас папалак такі — хто арыштаваў, той і вядзе справу да канца: хоча — апраўдае, хоча — расстраляе. Нават вышэйшае начальства ня мае права ўмешвацца.

Упаўнаважаны НКВД сказаў яму ісьці вучыцца далей, і дадаў: пакуль я тут, ніхто не зачэпіць.

Па сканчэньні авіяшколы ўсім курсантам былі прысвоеныя вайсковыя званьні, але ня Янку Гадзіцкаму, сыну «ворага народу». Янку паслалі служыць у каманданцкі ўзвод. Праўда, па некаторым часе выйшаў закон, што бацька за сына, а сын за бацку не адказваюць. Неўзабаве Янку выклікалі ў штаб школы і прысвоілі званьне авіямэханіка, прышпілілі вайсковыя адзнакі і забралі з каманданцкага ўзводу ды паслалі ў 5-ю эскадрыльлю працаваць авіямэханікам.

Ня ўсьпеў добра папрацаваць на аэрадроме, як галоўны інжынер авіябрыгады выклікаў яго і сказаў, што яго як электратэхніка пераводзяць у авіямайстэрню. Пасьля трэніроўкі яго назначаюць начальнікам нярухомых палявых авіямайстэрань. 19 верасьня 1939 г. іхны авіяполк і майстэрні былі пасланыя на польскі фронт. Заняўшы Заходнюю Беларусь, быў у Прыбалтыцы, у Бесарабіі, на ўсіх франтох да сьнежня 1940 году.

Дэмабілізаваўшыся ў студзені 1941 году, пайшоў працаваць на менскі завод імя Варашылава ў якасьці тэхкіраўніка. Ад заводу дастаў кватэру, ажаніўся. А ў чэрвені таго-ж году ўжо ўцякаў з ахопленага вайной Менску і знайшоў сабе прытулак на вёсцы.

Нямецкае радыё на беларускай мове расказвала пра новае добрае жыцьцё ў Эўропе. Да савецкае ўлады засталася вялікая крыўда, што зьнішчылі бацьку. На вёсцы пракарміцца было цяжка, дык пайшоў шукаць працы ў горад.

Начальнік раёну назначыў яго сьледчым па крымінальных справах. Грошы былі марныя, дый гестапа пачало ўмешвацца ў ягоныя справы. Давялося гэтую працу пакінуць. Пайшоў у Беларускую Краёвую Абарону (БКА). Разам з Арміяй эвакуаваўся ў Нямеччыну. Там жыў у лягеры «Остарбайтэраў», працаваў на заводзе ў гор. Мюнхэне.

Па капітуляцыі атрымаў статус уцекача. У Мюнхэне жыў на прыватцы. Калі арганізаваўся ў Мюнхэне Беларускі Нацыянальны Камітэт, у яго ўвайшлі: а. Леў Гарошка, др. Янка Станкевіч, др. Баляслаў Грабінскі, сп. У. Радзевіч і Янка Гадзіцкі (Ролсан).

У 1950 годзе эміграваў у Аўстралію. Займаў розныя становішчы ў Радзе Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Адэляйдзе: быў старшынём, сакратаром, скарбнікам, рэфэрэнтам вонкавых сувязяў. Быў вельмі стараннным, шмат працаваў пры будове царквы і прыцаркоўнай залі.

У 1975 годзе яго выбралі старшынём Беларускага Аб'еднаньня ў Паўдзённай Аўстраліі (Адэляйда). З прычыны дрэннага здароўя ў 1987 годзе адмовіўся ад гэтага становішча.

Пасьля цяжкой і даўгой хваробы, 23 студзеня 1994 г. адыйшоў на вечны супачын, пакінуўшы жонку Анюту, сыноў, дочку і сям'ю.

Шмат Янка Ролсан (Гадзіцкі) зрабіў для беларусаў Адэляйды. Ягоная праца і стараньні застануцца ў нашай памяці.

Сьпі спакойна, дарагі дружа.

*Адэляйда, Аўстралія*

**У. Акавіты**

---

# СЬВ. † ПАМ. ЯНКА РОЛСАН (ГАДЗІЦКІ)

**I.VIII.1912 – 23.I.1994**

У горадзе Адэляйдзе ў Аўстраліі памёр пасьля цяжкай хваробы сьв. пам. Янка Ролсан (Гадзіцкі). Нябожчык нарадзіўся ў маёнтку Вялень у Меленскай воласьці Ігуменскага павету. Пахаваны на магільніку Чэнтэлгайм у Адэляйдзе. Вечная памяць!

Глыбокія спачуваньні жонцы Анюце, сыном, дочцы і сям'і. Няхай будзе табе, сябра Янка Ролсан, лёгкая аўстралійская зямля.

**Парафіяльная рада**

---

# СЬВ. † ПАМ. АНТОН БЕЛЕНІС

Адыйшлў ад нас шматгадовы наш старшыня, руплівы і ахвярны працаўнік на беларускай грамадзка-рэлігійнай ніве, вядучы харыст на службах у сьвятынях. Вечная Яму Памяць! Шчырыя спачуваньні жонцы Людвіці, сястры Гені, брату Лявону і ўсім у радні Пануцэвічаў і Беленісаў.

**Згуртаваньне Беларусаў Штату Іліной**

---

**«ГОЛАС ЧАСУ» № 1 (28), люты 1994**
**Царкоўна-грамадзкі часапіс**

У нумары (42 ст.): Ю. В-скі — На Каляды (верш); П. Якавіцкі — Частка гісторыі; Ю. Весялкоўскі — Міністар замежных спраў РБ наведаў беларусаў Англіі; Б. Міхнік — Устаньма з каленяў (верш); Т. Буйко — З нагоды публікацыі ў газэце «Звязда» артыкулу І. Антановіча «Беларусы з-за мяжы і тутэйшыя»; Ю. В. — «Наш шлях — незалежнасьць і дэмакратыя»; А. Баханчык — За каго лічыць дэпутат ВС РБ увесь беларускі народ?; М. Бублікаў — Вось дык садружнасьць; М. Градзейскі — Ніна Андрэева пагражае новай кастрычніцкай рэвалюцыяй; матар'ялы у справе забойства ў Менску студэнта А. Баранава; Дзяржаўны гімн РБ; Н. Сьцяжко — Па залах музэя А. Белакоза; В. Цярпіцкі — Да сяброўак і сяброў беларусаў пражываючых за межамі Беларусі; А. Баханчык — Маршал Конеў схлусіў; Ю. Сьвяржынскі — Галасы аб «Вялікай айчыннай вайне» і ўдзел у ёй савецкіх і польскіх партызанаў; П. Навара — Кароткія ўспаміны; А. Баркоўскі — Нашы на Амуры; М. Зуй — Урачыстай акадэміі, прысьвечанай 73-м угодкам Слуцкай абароны; выпісы з друку; ілюстрацыі.

Адрас: VOICE OF TIME, 74 Netheravon Rd., London W4 2NB. England.

---

*Падпішэцеся на газэту «Беларус» для суродзіча на Бацькаўшчыне.*

---

## ПОШУКІ СВАЯКОЎ

**Данільчанка Леанід Васілевіч** шукае сваіх родных у Аўстраліі. Старэйшы брат Сяргей Данільчанка, 1918 г. народж., ураджэнец Гомельскай вобл., Барсуцкага сельсавету, в. Дубровіца, выехаў зь Беларусі ў 1944 г. Зь ім паехалі таксама ягоная жонка Лідзія, сын Мікола (нар. у 1941 г.), жончына маці, жончын брат Барыс Данільчанка, прыёмныя дзеці Сяргея й Лідзіі Жорж і Ліля Кавалёвы. У Аўстраліі яны жылі недзе ў гарадох Сыднэі, Мэльбурне, Камбэры. Да іх зьвяртаецца родны дзядзька Міколы Сяргеевіча Данільчанкі Леанід Данільчанка, які жыве па адрасе: 247500 Гомельская вобласьць, г. Рэчыца, перавулак Двадненка, д.7; тэл.: 3-49-47.

---

# НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Ад нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| Замест кветак на магілу с.п. С. Карніловіча | |
| Б.А. Даніловіч | ам.д. 50 |
| Сям'я Стагановічаў | 25 |
| Падпіска й ахвяры: | |
| В. Дубяга | 70 |
| А. Ліхач | 60 |
| А. Сільвановіч | 50 |
| БАПЦ (Гайленд-Парк) | 50 |
| БАПЦ (Кансысторыя) | 50 |
| А. Сямёнава | 50 |
| А. Літаровіч | 50 |
| В. Балтрушэвіч | 50 |
| ЗБАВ | 50 |
| Аддзел БАЗА Н.-Дж. | 50 |
| У. Траскевіч | 50 |
| В. Гуцько | 40 |
| М. Такушэвіч | 40 |
| Я. Сапежынскі | 40 |
| В. Цар | 40 |
| Я. Калюцік | 35 |
| Э. Пітушка | 30 |
| В. Кажан | 30 |
| Я. Бурдзь | 30 |
| К. Шыкалюк | 30 |
| А. Дубяга | 20 |
| Я. Яновіч | 20 |
| Г. Дубяга | 20 |
| Т. Кольба | 20 |
| Л. Стагановіч | 20 |
| А. Лашук | 20 |
| М. Прускі | 20 |
| Я. Літвіненка | 20 |
| Усяго | 1130 |

*Прыслалі беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| Кліўленд са спадчыны с.п. С. Карніловіча | ам.д. 1370 |
| А. Лук'янчык | 150 |
| М. Занкавіч | 100 |
| С. Буртан (у № 409 памылкова было пададзена 40) | 60 |
| Н. Сагановіч | 50 |
| В. Тумаш | 50 |

| | |
|---|---|
| П. Зыбайла | 30 |
| П. Белагуб | 25 |
| М. Грэбень | 25 |
| Ч. і Ю. Найдзюк | 20 |
| М. Клекоцкі | 20 |
| М. Прускі | 15 |
| Е. Юхнавец | 10 |
| І. Саўка | б.фр. 2000 |

*Ад нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| Падпіска й ахвяры: | |
| Б. Рагуля | ам.д. 260 |
| Б. і А. Даніловіч у 3-ю гадавіну сьмерці дарагога сына Эдварда | 200 |
| А. Монід | 100 |
| М. Абрамчык | 100 |
| А. Завістовіч | 50 |
| В.Г. Бельмач | 50 |
| А. Семянчук | 50 |
| А. Протас | 40 |
| А. Сільвановіч | 35 |
| Л. Корчык | 30 |
| Better Bee Supplies | 30 |
| Г. Бахар-Гайда | 30 |
| А. Непейн | 30 |
| А. Дубяга | 30 |
| К. Міранoвіч | 30 |
| Л. Шурак | 30 |
| Г. Дубяга | 25 |
| Я. Чорны | 25 |
| Ф. Філістовіч | 25 |
| С. Леанюк | 25 |
| К. Кумэйша | 25 |
| Ю. Азарка | 20 |
| М. Богдан | 10 |
| Усяго | 1250 |

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БІНіМ

| | |
|---|---|
| Акула К. | ам. дал. 50 |
| Даніловіч Б. | 120 |
| Сільвановіч А. | 10 |
| Сьнежка М. і В. | 100 |
| Субота А. | 10 |
| Пашкевіч М. і В. | 100 |
| Тулейка М. | 25 |